*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.). ◆ № 5 (61) ◆ 5 лютага 1992 г. ◆ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

***«Тарашкевіцу» ў асноўным ужываюць тыя маладыя літаратары, якія з дапамогаю эпатажу прагнуць звярнуць на сябе ўвагу чытача».***

Стар. 5

***Кніга выходзіць з падполля.***

Стар. 6

●

По звестках былога Міністэрства абароны СССР усяго ва Узброеных Сілах сёння служыць 167 тысяч афіцэраў украінскай нацыянальнасці, прычым з іх на Украіне ўсяго 60 тысяч. Усяго ж на тэрыторыі Украіны служыць больш за 44% рускіх і толькі 40% украінцаў. Звесткі перададзены ў Камітэт па бяспецы Вярхоўнага Савета Расіі.

Сярод вайскоўцаў на тэрыторыі Кыргызстана рускія складаюць 52%, у Казахстане — 50%, ва Узбекістане — 44%, у Туркменіі — 43%, у Азербайджане — 41%. Менш за ўсё рускіх праходзіць службу ў Арменіі — каля 32%.

(ВІС).

●

## Аляксей КАЎКА: беларус упершыню сказаў «не»

***— Яшчэ зусім нядаўна беларусы, пакрыўджаныя мясцовымі бюракратамі, везлі ў Маскву сваю крыўду і боль. Ім здавалася, што ЦК КПСС абароніць іх і пакарае беларускіх бюракратаў. Шкада, што і сёння яшчэ многія беларусы спадзяюцца на Маскву. Але што спадзявацца на Маскву, калі сама Масква для сябе нічога не можа зрабіць добрага?***

Напярэдадні 1992 года ў клубе «Спадчына», якім кіруе спадар Анатоль Белы, адбылася сустрэча сяброў клуба з Аляксеем Каўкам, доктарам філалагічных навук, які жыве і працуе ў Маскве. З найбольш цікавымі фрагментамі выступлення госця знаёмім сваіх чытачоў.

— Да апошняга часу ўвесь навуковы і тэхнічны прагрэс былой БССР быў скіраваны толькі на загубу ўсяго беларускага. Нягледзячы на татальнае вынішчэнне беларушчыны, мы не толькі захавалі культурнае і духоўнае багацце сваіх продкаў, а і здолелі стварыць багатую сучасную літаратуру і мастацтва. ...Нядаўна па тэлебачанні Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч адказваў на пытанні тэлегледачоў. Мне не спадабалася, што кіраўнік нашай дзяржавы на пытанні, якія ставіліся на рускай мове, адказваў па-руску, а не на мове свайго народа. Я лічу, што кіраўнік незалежнай дзяржавы не павінен падладжвацца пад сваіх суразмоўнікаў. Каму як не Старшыні Вярхоўнага Савета падаваць прыклад у карыстанні роднай мовай.

...Яшчэ і сёння мы не ведаем сваю гісторыю. Многія лічаць, што Расія ратавала нас ад розных захопнікаў. Гэта не заўсёды было так.

...Я нядаўна быў у Лондане. Там жыве шмат эмігрантаў з Беларусі, якія захавалі вернасць Айчыне і любоў да роднай зямлі. Нашы беларускія эмігранты, якіх да нядаўняга часу ў нас называлі фашысцкімі недабіткамі,— гэта першая палітычная беларуская эміграцыя. Пакідаючы радзіму, людзі рабілі свой выбар дзеля далейшага служэння Айчыне і змагання за яе незалежнасць. Яны маглі застацца і тут, але тады яны ляжалі б сёння ў Курапатах ці ў далёкім ГУЛАГу.

Беларуская эміграцыя стварыла цудоўную літаратуру, выпусціла ў свет шмат часопісаў і газет, у якіх не толькі сум па радзіме, але і боль за яе, і гонар за сваю нацыю.

— Ці ёсць у Маскве беларусы, якія лічаць сябе сапраўднымі беларусамі і змагаюцца за беларушчыну?

— У Маскве жыве больш за 80 тысяч беларусаў і з іх каля 30 працэнтаў лічаць роднай мовай беларускую. Праўда, свядомых беларусаў у Маскве зусім мала, але ці многа такіх у самой Беларусі? Я часта задумваюся, ходзячы па Менску: чаму ў некаторых кіёсках працуюць рэакцыйныя людзі, людзі, якія ненавідзяць беларушчыну? У Маскве ж да беларусаў, якія не хаваюць тое, што яны беларусы, адносяцца лепш, чым у сталіцы Беларусі.

*(Працяг на с. 2).*

## Навіны сталіцы

Незвычайная міжнародная выстава адкрылася ў Менску на ВДНГ Рэспублікі Беларусь — «Мастацтва — поштай». Гэта своеасаблівая форма зносін людзей розных краін свету, калі адрасатам адпраўляюцца не пісьмы, а малюнкі, выкананыя ў свабодным стылі, які не патрабуе высокага прафесіяналізму.

Тэма выставы — «Апакаліпсіс». Яна ўключае 150 прац розных аўтараў з ЗША, Англіі, Германіі, Японіі і іншых краін.



**На здымку:** прадстаўнікі «Мастацтва—поштай» беларус Уладзімір Суцягін, Анжэла Пілер і Пітэр Кустэрман з Германіі і Іонас Некрашус з Літвы.

Фота Валерыя АЛЯШКЕВІЧА (БЕЛТА).

## Пульс тыдня

***СКОНЧЫЎСЯ ПЕРЫЯД УРАЧЫСТЫХ ПАДПІСАННЯЎ ГАНДЛЁВА-ЭКАНАМІЧНЫХ ПАГАДНЕННЯЎ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ІНШЫМІ РЭСПУБЛІКАМІ СНД. СЕННЯ ІДУЦЬ БУДЗЁННЫЯ ПАВЕДАМЛЕННІ: ДАГАВОРЫ НЕ ВЫКОНВАЮЦЦА. БЕЛАРУСКІЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ ЗАКЛЮЧЫЛІ ПАГАДНЕННІ АБ ПАСТАЎЦЫ МАТЭРЫЯЛЬНЫХ РЭСУРСАЎ ТОЛЬКІ НА 18 ПРАЦЭНТАЎ АД ПАТРЭБНАСЦІ.***

*Створаны Міжнародны вышэйшы каледж па радыеэкалогіі імя А. Д. Сахарава. Заняткі тут будуць весціся на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай.*

**МЫ ЎЖО ПЕРАСТАЛІ ЗДЗІЎЛЯЦЦА УСЁ НОВЫМ І НОВЫМ ПАВЫШЭННЯМ ЦЭН — НА ХЛЕБ, МАЛАКО, МЯСА...** А вось тое, што зарплату і ў лютым выдаюць многім, у тым ліку і супрацоўнікам нашай газеты, па старых стаўках, яшчэ прымушае здзіўляцца. Нават свае сціплыя абяцанні не спяшаюцца выконваць кіраўнікі рэспублікі...

***БЕЛАРУСКІ ПАРЛАМЕНТ ПРЫНЯЎ ПАСТАНОВУ «АБ МЕРАХ ПА СПЫНЕННЮ ПРАПАГАНДЫ ПАРНАГРАФІІ, КУЛЬТУ НАСІЛЛЯ І ЖОРСТКАСЦІ».*** *Пастанова патрэбная, але не зусім зразумела, як яна будзе выконвацца: штодзень з Масквы на рэспубліку абрушваецца такая колькасць тэлеперадач пікантнага зместу, што проста, як кажуць, вушы вянуць. І ўсё, выходзіць, па закону?..*

**МНОГА Ў НАС** гаворыцца апошнім часам пра захаванне памяці продкаў, нявінных ахвяр, пра Курапаты. І ў той жа час у жыцці не відаць ніякіх змен. **МЕСЦА АДНАГО З ТРОХ САМЫХ БУЙНЫХ КАНЦЛАГЕРАЎ У СВЕЦЕ — ТРАСЦЯНЕЦ ПАД МЕНСКАМ — АБЛЮБАВАНА ГОРАДАБУДАЎНІКАМІ. ДНЯМІ ТУТ СПРАЎЛЕНА ЯШЧЭ АДНО НАВАСЕЛЛЕ. ЯКІЯ Ж БУДУЦЬ СНІЦЦА СНЫ НАВАСЁЛАМ У ТЫХ ДАМАХ?**

***ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК У. ПЛАТОНАЎ ПРЫСЛАЎ СВАІМ КАЛЕГАМ ПІСЬМО З АМЕРЫКІ. ЁН ПАПРАСІЎ ЗВОЛЬНІЦЬ ЯГО З ПАСАДЫ І ПРЫЗНАЧЫЦЬ УСЯГО ТОЛЬКІ ДЫРЭКТАРАМ ІНСТЫТУТА МАТЭМАТЫКІ.*** *Цікавыя бываюць іншы раз пісьмы навукоўцаў...*




# АДЗІН «ЗАКОН АБ МОВАХ» НАДВОР'Я НЕ ЗРОБІЦЬ

Размовы пра гаротны стан беларускай мовы ды беларусізацыі становяцца агульным месцам. Вуха ўжо прызвычаілася да іх, а справы — няма. Непрэстыжная мова. Ды і папрацаваць трэба, каб добра навучыцца размаўляць на ёй, а за такую працу ніхто плаціць не збіраецца. Ад прымусу таксама дабра не бывае.

Што ж рабіць, каб людзі самі захацелі карыстацца беларускай мовай? Ці існуе праграма беларусізацыі? Ці працуюць на беларусізацыю сродкі масавай інфармацыі, прыкладам радыё і тэлебачанне? Дзе тыя беларускамоўныя перадачы, найперш асветніцкія, пазнавальныя, рэлігійныя, забаўляльныя, якія былі б роўныя ці нават на ўзровень вышэй за перадачы па расійскіх каналах? Такія, што, калі трэба адысціся, дык шкадуеш, што не можаш дaслухаць, дагледзець? Гляджу дзіцячую перадачу па праграме расійскага ТБ: дасведчаныя літаратуразнаўцы абмяркоўваюць з 11—12-гадовымі падлеткамі вартасці творчасці Арсенія Таркоўскага. Цікава, хочацца глядзець і слухаць. Пераключаю на беларускі канал: перадача пра дзіцячы часопіс — якая нуда! (Часопіс добры, перадача нудная). «Дарослыя» перадачы таксама не вылучаюцца яскравасцю. Беларускае ТБ нецікава глядзець. Ці ў нас бракуе таленавітых прафесіяналаў? Хто кіруе рэдакцыямі? Хто ў іх працуе? Чаму такая бездапаможнасць?

Многія і многія з нас чакаюць вечара пятніцы, каб стаць тэлеўдзельнікам «Поля цудаў». А што падобнае можа прапанаваць беларускае ТБ? Можа, варта было б утварыць такое ж «Поле...» на карысць вывучэння беларускай мовы, з такімі ж прызамі? Я ўжо не кажу пра арыгінальныя перадачы, якія былі б толькі на нашым ТБ.

А ці ёсць перадачы пра культуру слова? «Гаворым па-беларуску»? Дык гэта кропля ў моры. А на радыё?

Рэчаіснасць такая, што ў нашых людзей не развіта пачуццё нацыянальнай годнасці. Мы не ведаем ні сябе, ні сваіх святых, ні святыняў. Жывём у невуцтве, не маем самапавагі. Чаму ж не бачым мы, не чуем выдатных беларускіх навукоўцаў новай генерацыі? Зрабіла калісьці «Ліра» добрую заяву на гістарычна-асветніцкія перадачы пры ўдзеле спадарыні Іпатавай. «Ліра» ёсць, ды такой ужо няма.

У Менску другі ці трэці год працуе народны універсітэт «Гісторыя і культура Беларусі». Найцікавейшыя лекцыі спадароў Ткачова, Чарняўскага, Сагановіча, Санько, Хадыкі... Ёсць спрэчныя моманты? Тым лепш, павучымся дыскутаваць. Чаму гэтых разумных, дасведчаных, інтэлігентных навукоўцаў бачаць і слухаюць усяго некалькі соцень. людзей?

Каб мова стала прэстыжнаю, яна павінна гучаць з вуснаў разумных, паважаных, культурных людзей. І не забыцца б тут на нашу эміграцыю, якая шануе родную мову.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь не бачаць і не чуюць лепшых носьбітаў нашай культуры. Таленавітых ды нацыянальна свядомых людзей нам стае, але, як кажуць, яны «не востребованы». Чаму?

А ці распрацавана сістэма курсаў па вывучэнні мовы на прадпрыемствах ды ўстановах? Хто іх фінансуе?

Пра наш дзівосны свет, пра яго таямніцы, пра культуры іншых народаў нашы гледачы, слухачы ды чытачы ў большасці выпадкаў даведваюцца з рускамоўных крыніц. Іх больш, і яны высокага культурнага ўзроўню. То з якое нагоды патрабаваць ад насельніцтва Беларусі, каб яно звярнулася да беларускасці? Толькі таму, што выйшаў Закон?

Для беларусізацыі патрэбны сродкі, час, гнуткая палітыка, якая выключае прымус, і шмат цяжкай працы, розуму і цярпення.

Ірына ЗВАРЫКА.
г. Менск.

# Абурэнне Франца САДОЎСКАГА

З маёрам Францам Садоўскім мы пазнаёміліся ў памяшканні Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны. Вайсковец набываў свежую літаратуру. Браў па некалькі асобнікаў. Калі я пацікавіўся, навошта столькі, ён сказаў: «Для сяброў...— а пасля дадаў: — у Грузіі служыць шмат беларусаў».

Каму ж яны служаць у Грузіі, дзе ідзе вайна?..

Разам з сябрамі па службе Франц неаднаразова пісаў лісты-звароты і на імя беларускага парламента, і да старшыні БНФ Зянона Пазьняка. Вайскоўцы прасілі аднаго: каб лёс іх вырашалі не чужыя ўрады, а Рэспубліка Беларусь. Адказаў на свае звароты вайскоўцы з Грузіі не атрымалі.

Карыстаючыся чарговым адпачынкам, Франц Садоўскі прыехаў у Менск. Наведаўся ў нядаўна створанае Міністэрства па справах абароны Рэспублікі Беларусь (цяпер ужо рэфарміравана ў Міністэрства абароны). Меркаваў сустрэцца з яго кіраўніком — генерал-лейтэнантам Пятром Чавусам. Ды не атрымалася. Выслухалі маёра з Грузіі асобы рангам крыху ніжэй, чым міністр. Мо яно і ўсё будзе добра, бо паабяцалі разглядзець пытанне Ф. Садоўскага і яго сяброў па службе. Але ўсё адно неспакойна на душы ў маёра.

— Не надта веру я, што нешта зварухнецца з месца, што ў хуткім часе будзем мы служыць на Беларусі. Вось і ў новым міністэрстве на мяне з маёй беларускай гаворкай пазіралі, як на самага апошняга дзівака,— з горкасцю ў голасе гаворыць маёр Франц Садоўскі.

Дык можа голас беларуса-вайскоўца з Грузіі пачуе Беларускае згуртаванне вайскоўцаў? Актыў гэтай грамадскай арганізацыі не толькі родную мову ведае, але і збірае банк інфармацыі пра ўсіх беларусаў, што служаць у войску за межамі Рэспублікі Беларусь.

А. КУТ.

*Меркаванні*

# Назад, у «залаты век» правапісу?

***Шаноўная рэдакцыя, хачу зрабіць прапанову. Друкуйце сваю газету згодна з правапісам, якім карысталіся ў 1918—1933 гадах,— па граматыцы Браніслава Тарашкевіча. Гэтым вы падтрымаеце справу адраджэння Беларусі. А так атрымліваецца, што вы як бы падтрымліваеце зневажальную рэформу 1933 года, калі хацелі гвалтам наблізіць беларускую мову да расійскай. Гэта ім удалося. Шмат людзей на Беларусі пачалі называць нашу мову «мужыцкай». І я думаю, што вы дапаможаце такім чынам адрадзіць сваю мову і нацыянальную культуру.***

***Аляксей БРУЙ***
***з Гарадзеі.***

Ад рэдакцыі. Шаноўны спадар Аляксей. Значыць, Вы лічыце, што варта было правесці дужа кепскую для беларусаў рэформу правапісу, каб людзі перакапылілі сваю гаворку на расійскую?

Вы прапануеце нам вярнуцца да правапісу, «якім карысталіся ў 1918—1933 гадах», і даеце арыенцір — да граматыкі Тарашкевіча. Дапусцім, мы так і вырашылі неадкладна зрабіць. Але як быць з карэктарамі? Яны ж навучаныя па сучасных правілах. Тое ж і журналісты. Нарэшце — наборшчыкі ў друкарні. І вось у адзін момант, дзякуючы толькі загаду рэдактара, гэтыя спецыялісты даволі высокай кваліфікацыі і шчырыя, дарэчы, прыхільнікі беларусізацыі становяцца амаль пачаткоўцамі, першакласнікамі, якім давядзецца нанава асвойваць, набываць аўтаматыку правапісу. А ім жа кожны дзень трэба рыхтаваць матэрыялы для чарговага нумара газеты! Мала таго,— яшчэ і перапісваць аўтарскія матэрыялы, бо і Вы ж, шаноўны спадар Аляксей, напісалі свой ліст згодна з сучасным правапісам, бо так навучаны.

А як быць, між іншым, з папярэджаннем самога Тарашкевіча — ставіцца да ягонай працы творча, улічваючы назапашаны вопыт?

Наконт рэформы 1933 года. «Ганебная»? Гэта так. Спрабавалі ў нястрыманым халуйскім імпэце некаторыя беларускія вучоныя дагадзіць Цэнтру імперскаму, рыхтавалі глебу для камуністычнага «зліцця» моў. Аднак жа ці дамагліся мэты? Ва ўсякім разе той рэформай. Не. Даводзілася начальству вяртацца да гэтай справы зноў і зноў. Бо ўпарта супраціўлялася жывая мова народа. З цягам часу не толькі правілы, як пісаць, а нават іншаземныя словы праз нейкі час ужывання перапрацоўваюцца магутнай стыхіяй народнага маўлення. Нездарма тым жа бальшавіцкім заканадаўцам правапісу давялося асобна абгаворваць, як належыць пісаць «асоба рэвалюцыйныя» словы, каб яны не асіміляваліся. Памятаеце: кóмунізм, кóмітэт?

Дарэчы, звярніце ўвагу на англійскую ці французскую мовы. Чаму пішацца адно, а чытаецца па-іншаму? А некалі ж і там усё як вымаўлялася, так і пісалася. Але ж час, тая самая моўная стыхія, прыстасаванне мовы да змены асяродка існавання зрабілі сваю справу — узнікла розніца паміж напісаннем (правіламі) і вымаўленнем. Прычым змены ўзніклі не самі па сабе, а з-за моўнага ўплыву суседніх народаў, часта — заваёўнікаў.

Нешта падобнае адбылося некалі з расійскай мовай, калі пераважная большасць дваранства ў побыце пачала актыўна карыстацца спачатку нямецкай, а потым французскай (нават Пушкін у дзяцінстве апошняй авалодаў раней, чым той, на якой напісаў свае шэдэўры). Перайшоўшы ўсё ж потым на мову айчынную, расійскае адукаванае грамадства (нават славянафілы!) ужо не змагло (ды і не пажадала) вярнуцца да правапісных норм, распрацаваных Сматрыцкім і Традзьякоўскім.

Але вернемся зноў да нашай правапіснай сітуацыі. Напачатку, у 1985—1990 гадах, калі разгарнулася рашучае змаганне прагрэсіўнай грамадскасці за ліквідацыю імперскай сістэмы, самадзейнае ўжыванне ў нефармальных выданнях «тарашкевіцы» (яшчэ яе называлі «фронтаўкай») успрымалася як наўмысны выклік афіцыйным, няхай сабе і беларускамоўным нават, але кампартыйным выданням. Цяпер сітуацыя мяняецца. У інтэлігентным асяродку ўжо можна пачуць: «тарашкевіцу» ў асноўным ужываюць тыя маладыя літаратары, якія з дапамогаю эпатажу прагнуць звярнуць на сябе ўвагу чытача. Ды і малаздольныя навукоўцы карыстаюцца момантам, каб зрабіць кар'еру, адштурхнуўшы ў бок ранейшую наменклатуру, а заадно і сур'ёзных вучоных. Дарэчы, такое ўжо ў нашай гісторыі было.

А яшчэ жартуюць: за мяккія знакі змагаюцца зараз шапялявыя, а што рабіць спадарству з іншымі дэфектамі маўлення? Жарт, між іншым, узнік не на пустым месцы. Сапраўды, навошта насычаць слова бясконцымі мяккімі знакамі, калі ёсць на Беларусі даволі значныя рэгіёны, дзе вымаўляюць, напрыклад: м'ёд, м'яса, м'ецъ і да таго падобнае? Ці вось жыхары лясной Налібоччыны высмейваюць сваіх суседзяў за тое, што тыя перад галоснымі ў пачатку слова дадаюць гук «г»: «гарол» замест «арол» ці «ганучa» замест «ануча».

Сёння, між іншым, у заходнееўрапейскіх мовах не без уплыву англійскай, «выхаванай» у свой час лацінкаю, назіраецца імкненне, тэндэнцыя да лаканізму (асабліва выразна з'яву можна заўважыць у маладзёжным, найбольш «рухомым» слэнгу), да ўнутранай спружыненасці слова. А мы пойдзем, выходзіць, у адваротны бок? Бо што сабою ўяўляе разбітае мяккімі знакамі слова? Яно нібы «размякае», набрыньвае залішняй «вільгаццю», бы сакавіцкі снегавік: беларусь-кась-ць, сь-нег (ці ўжо на канцы пісаць «х» — сь-не-х, калі транскрыбіраваць усё?). Разрываючыся такім чынам на часткі, слова пры вымаўленні набывае нейкі азіяцкі акцэнт: углядаесь-ся, пось-пех, пась-ля, сь-мер-ць, дзянь-ні-ца. Апошняе гучыць ужо блізка да сімвала кітайскага камуністычнага монстра — Цянь-ань-мынь, ці не праўда?

Дык па якому шляху рушым, вольныя спадары,— азіяцкаму ці ўсё ж больш да нас блізкаму — еўрапейскаму?

Эрнэст ЯЛУГІН.

# Аляксей КАЎКА: беларус упершыню сказаў «не»

*(Працяг. Пачатак на с. 1.)*

**— Як вы лічыце, ці адродзіцца беларушчына?**

— Беларушчына толькі пачынае адраджацца. Поспехаў у гэтым накірунку пакуль што вельмі і вельмі мала. Мяне радуе адно, што ў Беларусі на сённяшні дзень нараджаюцца беларускія дзеткі, якія са дня свайго нараджэння чуюць родную мову ў сям'і. Мы, старэйшае пакаленне беларусаў, я лічу, у сваёй большасці ўжо страчаныя для Айчыны. Многія з нас ужо ніколі не вернуцца да беларушчыны.

**— Як вы адносіцеся да палітычных падзей, што адбываюцца апошнім часам на Беларусі?**

— Я невялікі палітык, але ўсё, што робіцца на Беларусі, мяне хвалюе. З цікавасцю сачыў за сустрэчай кіраўнікоў славянскіх дзяржаў: Беларусі, Расіі і Украіны і радаваўся гэтай падзеі. Радаваўся, таму што беларус упершыню сказаў «не!». А воля ў раба пачынаецца менавіта з гэтага слова. Ужо настаў той час, калі за словамі беларуса «мой народ», «мая нацыя», «мая дзяржава» стаіць рэальны змест. Але сапраўдная воля і незалежнасць у нас яшчэ наперадзе.

**— Як вы лічыце: накіраванасць нашага жыцця павінна быць палітычнай ці культурна-асветніцкай?**

— На сённяшні дзень для нас галоўнае — палітыка. Нам трэба яшчэ да канца ўсвядоміць, што мы народ, што мы нацыя, што мы жывём у незалежнай дзяржаве.

**— Як жывуць у Маскве беларусы?**

— Мы адчуваем адарванасць ад родных каранёў і таму, калі хто прыедзе ў Маскву з Беларусі, наладжваем сустрэчы ў клубе «Скарынічы». А так збіраемся раз у месяц. Часцей за ўсё чалавек пятнаццаць, дваццаць, трыццаць. Выдаём свой часопіс «Скарыніч».

Падрыхтаваў
Віктар ШНІП.

# На сцэне —«чортаў скарб»

З 1991 года гродзенскі абласны тэатр лялек перайшоў на беларускую мову. Тэатральны сезон адкрыла казачная пастаноўка па матывах твора Уладзіміра Караткевіча «Чортаў скарб».

Галоўныя дзеючыя асобы спектакля — селянін Янка і добра вядомы ўсім міфалагічны персанаж — чорт. Пастаноўка, у якой багата і музыкі, і народнага гумару, апавядае пра тое, як дзякуючы чортаваму скарбу, небарака Янка стаў заможным селянінам.

Спектакль «Чортаў скарб» паставіў галоўны рэжысёр тэатра Мікалай Андрэеў. У спектаклі заняты акцёры: Віктар Шалкевіч, Юрый Мінько, Вячаслаў Корнеў, Юрый Буракоў, Людміла Паўлоўская. Дэкарацыі і лялькі выканаў мастак Юрый Давідзюк.

М. ДУБРАВІН.
г. Гродна.

Святар храма, які будуецца ў Менску ў гонар іконы Божай маці «Усіх смуткуючых радасць» і памяці ахвяр Чарнобыля, айцец Ігар стаў адным з ініцыятараў міжнароднай выставы «Інтэр-рэа-мед-91» (выставачны комплекс на праспекце Машэрава).

# Дзе і што?

У Санкт-Пецярбургу сродкамі Беларускага культурнага таварыства выдаецца газета «Родзічы». Ужо выйшла два нумары, рыхтуецца трэці.

* * *

У пасольстве Рэспублікі Беларусь у Маскве прайшлі дзве імпрэзы. Адна з іх, якая адбылася 20 снежня мінулага года, была прысвечана 100-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча. Перад прысутнымі выступіў Дзяржаўны акадэмічны хор імя Г. Цітовіча. На ўрачыстасці прысутнічалі беларусы з Вільні і Амерыкі.

7 студзеня адбыўся канцэрт вядомага опернага спевака спадара Скарабагатава, які выканаў старадаўнія беларускія музычныя творы з «Полацкага сшытка».

Дарэчы, беларускае пасольства ў Маскве мае тры будынкі: былы асабняк графа Румянцава, гаспадарчы корпус і будынак, які нядаўна пакінуў вайсковы камісарыят.

* * *

На пачатку студзеня ў БДУ адбыліся IV навуковыя чытанні, прысвечаныя К. Лукашову, былому рэктару універсітэта. Галоўнай тэмай чытанняў сталі палітычныя праблемы на Беларусі.

* * *

Міністэрствам народнай адукацыі Беларусі і культурным цэнтрам «Беларусь» (г. Алма-Ата) распачаты конкурс, прысвечаны гісторыі, культуры і іншым аспектам развіцця беларускага народа. Трыццаць пераможцаў атрымаюць права льготнага паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі. Пераможцы конкурсу самастойна вызначаюць навучальную ўстанову, у якой бы яны хацелі вучыцца, і спецыяльнасць навучання.

Падрыхтаваў Ігар МІХНО.
ВІС.

*Крокі беларусізацыі*

# Нараджэнне з попелу

**Зусім нядаўна ў Менскім педінстытуце існаваў філалагічны факультэт, які рыхтаваў настаўнікаў як роднай мовы і літаратуры, так і расійскай. А 5 мая 1991 года на яго аснове стварыўся новы факультэт — беларускай філалогіі і культуры.**

**— Адкрыццё яго — з'ява невыпадковая, — сказаў дэкан А. І. Лугоўскі. — Думка аб стварэнні самастойнага факультэта выспявала даўно, аднак рэалізаваць яе на практыцы стала магчымым толькі пасля прыняцця Закона аб мовах у Беларусі. Новы факультэт павінен стаць адным з цэнтраў філалагічнай навукі. У апошнія гады значна павялічыўся прыём студэнтаў на спецыяльнасць беларуская мова і літаратура. Праз пяць гадоў на факультэце будзе вучыцца 1625 студэнтаў. Як бачым, для адкрыцця самастойнага факультэта былі ўсе падставы.**

**Змены назіраюцца ў раскладзе заняткаў, бо спецыяльнасць настаўніка беларускай мовы, літаратуры і культуры патрабуе глыбокай дасведчанасці ў пытаннях выяўленчага мастацтва, тэатра, дойлідства, ткацтва... Раней на першым курсе студэнты аддзялення беларускай мовы і літаратуры завучвалі на памяць імёны грэчаскіх і рымскіх антычных багоў. Імёны Дажбога, Перуна большасці студэнтаў практычна нічога не гаварылі. Думаецца, гэты значны прабел здолеюць запоўніць лекцыі і практычныя заняткі па беларускай міфалогіі, этнаграфіі, тэорыі і гісторыі культуры. Не памылюся, калі скажу, што праз пяць гадоў вучобы ў ВНУ толькі ствараюць для моладзі падмурак асноўных ведаў. Наша развіццё залежыць у першую чаргу ад самастойнай працы. А хто, як не мы, адродзім Айчыну і запалім паходню любові да роднай зямлі? Згадаем выказванне Цёткі: «На вас, моладзі, ляжыць вялікая адказнасць: развіваць далей родную мову, узбагачаць свой народ ведамі і культурай».**

**Цёплыя словы, адрасаваныя студэнтам і выкладчыкам новага факультэта, гучалі з вуснаў пісьменнікаў, вучоных, дзеячаў культуры на святочнай вечарыне 29 кастрычніка. Надзвычай прыемна, што гасцямі вечарыны былі супрацоўнік газеты «Ніва» спадар Алесь Баршчэўскі з Беласточчыны і паэт Алесь Барскі, які ў сваім выступленні сказаў:**

**— І жонка, і я паўсюдна карыстаемся беларускай мовай. На жаль, у Менску мне не давялося яе чуць у тралейбусах, аўтобусах. Чаму?**

**Балючае пытанне. А «трасянка», нібы амяла, моцна трымаецца за наш лексікон і ў крамах, і на вулках, і, што яшчэ горш, у інстытуце. Лекаў ад гэтага не знойдзеш у аптэцы. Лекі — у свядомасці. Спадзяюся, нешта зварухнулася ў душы тых, хто прыйшоў за кампанію на свята адкрыцця факультэта, а пайшоў са шчымлівай думкай: хто я такі? Для чаго я жыву?**

**Анатоль Сыс у паэме «Агонь-птушка» пісаў:**

**ёсць такая Агонь-птушка**
**з попелу ўваскрасае**
**я ведаю**
**я дакладна ведаю**
**гэта птушка**
**нашага лёсу**

**Адкрыццё новага факультэта асацыіруецца ў мяне менавіта з вобразам Агонь-птушкі. Мы таксама нараджаемся з попелу, з нябыту, каб несці ў народ свой найвялікшы скарб — родную мову і культуру.**

Таня БАРАНІЧ,
студэнтка Менскага педінстытута.

# Пераказаў мне бацька верш...

**Вось ужо два гады я падпісваюся на «Наша слова», але пішу да вас упершыню. Захацелася падзяліцца думкамі, якія з'явіліся пасля нядаўняй гаворкі са сваім бацькам пра нашу мінуўшчыну, а таксама цяперашні час.**

**І нагадаў мне бацька верш, які запомніўся яму яшчэ з маленства. Ён дасканала не ведаў, хто напісаў гэты верш. І вось пачаў я праглядаць дзевяты нумар «Маладосці» за 1991 год і ўбачыў там верш, які пераказаў мне бацька. Аказалася — гэта твор Алеся Гаруна.**

**Нагадаю першы слупок верша так, як запомніў яго бацька, якому ўжо амаль 60 гадоў:**

Ты, мой брат, каго зваць
беларусам,
Роднай мовы сваёй
не чурайся;
Як не зрокся яе пад
прымусам,
Так і вольным цяпер
не зракайся.

З павагай да вас.
Аляксандр ЯНУШКЕВІЧ,
будаўнік.
г. Менск.

*Рупліўцы*

# След Юркі Генюша

Матэрыял пра Юрку Генюша хочацца пачаць радкамі ўспамінаў са «Споведзі» Ларысы Генюш: «Я прачынаюся. Мне неспакойна, і вобраз жанчыны са сну мяне праследуе. Я веру, што ў нас будзе сын, і мы ўжо ненароджанага яго назвалі Юркам. І так нам 21.10.1935 г. радзіўся сын. Здавалася, што ўсе тыя непаладкі з ад'ездам, усё гэта толькі па тое, каб шчасліва, пры мужу нарадзіўся сын. А можа, яно так і было? Нарадзіўся дома ў нас, і роды былі вельмі цяжкія. Уся Зэльва з напружаннем чакала, ці будзе сын, бо я ж сказала некалі, што раджу сына... Дзеці прыходзілі ў школу і апавяшчалі настаўнікам, што ў нас сын... Мы напісалі Маліцкім, як абяцалі, а за кума папрасілі харошага чалавека, майго знаёмага яшчэ са школьных гадоў, ён, як і мы, беларус... А дзіцятка крычала, прагна ссала малако, варушыла энергічна ручкамі і нагамі, ірвалася да жыцця. Радзілася дробненькім — 2 кг 800 г, але хораша прыбывала. Я змянілася, мацярынства пранікла да глыбіні душы. Даць жыццё чалавеку раўназначна цуду, перад якім моўкнуць усе іншыя справы...» (Маладосць», 1990, с. 139—140).

Ішлі гады. І лёс так сярдзіта распарадзіўся, што большую частку свайго жыцця Юрка Генюш пражыў без бацькоў, якія па трагічна вядомых абставінах не змаглі быць побач з ім. Ён жыў з сям'ёй у Беластоку, тут меў свой дом, працаваў.

Успамінае беларускі паэт Віктар Швед (Беласток): «Юрка Генюш быў таленавітым хлопчыкам, пісаў вершы, апавяданні, п'ескі, валодаў добра беларускай мовай. Вельмі чулліва ўспамінаў сваю маці Ларысу Генюш, часта наракаў на савецкую ўладу за трагічны лёс яе і бацькі Янкі Генюша. Я быў у добрых адносінах з Юркам, адзін раз нават арганізаваў яму ў Варшаве літаратурны вечар. Ён быў задаволены. На жаль, да сённяшняга дня наша «Белавежа» не выдала кніжку яго лепшых твораў. А гэтага ён заслугоўвае...

Пісьменніцкі лёс Юркі Генюша непарыўна звязаны са станаўленнем і развіццём беларускай газеты «Ніва» і Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, у дзейнасці якога ён прымаў удзел. Дэбютаваў Ю. Генюш на старонках беларускай «Нівы» ў кастрычніку 1963 года — гэта было апавяданне «Прыкметы».

Пісаў Юрка Генюш таксама і сцэнічныя творы. Прыкладам можа служыць «Зборнік сцэнічных твораў», які ён выдаў у 1976 годзе ў Беластоку супольна з Сакратам Яновічам.

Плённа літаратар займаўся і публіцыстыкай, рэагуючы такім чынам на надзённыя праблемы. Усё, што ён напісаў, напоўнена трывогай за маральнае здароўе грамадства.

Успамінае Янка Целушэцкі з Беластока: «З Юркам Генюшам я пазнаёміўся на літаратурных сустрэчах. Хоць і працаваў ён лекарам, але на ўсе літаратурныя вечары знаходзіў час. Праўда, лекарам ён быў намнога мацнейшым, чым пісьменнікам. Калі захварэе дзіця — усе выклікалі Юрку, бо ведалі, што ён дапаможа. А быў ён адкрытым і шчырым чалавекам, заўсёды запрашаў да сябе дамоў. А дома ў яго была галерэя розных фігурак з каранёў дрэў, якія ён любіў збіраць у лесе...»

У 1985 годзе ў лістападзе з Беластока прыйшла сумная вестка: не стала Юркі Генюша. Праводзячы яго ў апошні шлях, Сакрат Яновіч сказаў: «Ён пакінуў свой выразны след у нашай культуры, якой патрэбен кожны талент, тым больш такі арыгінальны, якім лёс абдарыў нашага Юрку».

Беластоцкая «Ніва» за 2 снежня мінулага года апублікавала апошнія вершаваныя творы Ю. Генюша, якія захоўвала ў сваім сямейным архіве ўдава паэта Валянціна Генюш. Уступнае слова да вершаў напісаў усё той жа Сакрат Яновіч: «Успамінаючы драматычную смерць Юркі Генюша (20 лістапада 1985 года), прыходзіць на думку і такая канстатацыя: яго загубіў нядобры час! Будучы па сваёй натуры паэтам, ён балюча перажываў бясслаўную эпоху, прытым нажыўшы сабе ворагаў сярод грубаскурых здаволенцаў і наменклатурных паноў. Як кожны пісьменнік, дабіваўся друкавання, што было заняткам на тую пару вычарпальным. Выхаваны ў стараеўрапейскай Празе і маючы бацькамі патомных інтэлігентаў, не паддаваўся маніпуляцыі. Не дазваляў калечыць свае тэксты. Не пагаджаўся дапісваць у іх тое, чаго не напісаў. Гонар не бывае без цаны, як і сумленне. І ён заплаціў гэтую чортавую даніну — не толькі ў выглядзе неапублікаванага, але таксама хваробамі, стратай нерваў, урэшце, заўчаснай смерцяй у свае пяцьдзесят».

Да ўсяго сказанага пра Юрку Генюша хочацца дадаць, што пахаваны ён у Беластоку, на праваслаўных могілках, у Петрашоўскім квартале горада.

Сяргей ЧЫГРЫН.

## Дзе і што?

* * *

На Украіне ўтвараецца арганізацыя УНС — Украінская народная самаабарона, якая мае на мэце ахову «прадуктовага рынку».

Кіраўніцтва УНСа мае дакладныя звесткі, згодна з якімі ў Казані, Чэбаксарах ды ў многіх іншых гарадах Расіі, кепска забяспечаных прадуктовымі таварамі, ужо ствараюцца (пэўна, не зусім легальна) атрады з трэніраваных хлопцаў для «прадуктовых дэсантаў» на Украіну. УНС у Кіеве налічвае каля трохсот сяброў.

* * *

Па звестках штотыднёвіка «Украіна молода» пераход навучальнага працэсу ўкраінскай вышэйшай школы на нацыянальную мову немагчымы. Ва ўсякім разе ў бліжэйшы час. Прычыны? Недастатковая колькасць падрыхтаваных педагогаў, недахоп падручнікаў і метадычных дапаможнікаў. А сярод студэнтаў данецкіх ВНУ (паводле анкетавання) навучацца па-ўкраінску маюць жаданне толькі 5—7%.

Гэтую сітуацыю імкнуліся вырашыць на сваёй радзе рэктары данецкіх навучальных устаноў.

(ВІС).

*У суполках ТБМ*

## Палітыка, дэмакратыя, мова

Калі свет трымаецца на трох кітах, то наша жыццё, па вызначэнні Печынскай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны, — на палітыцы, дэмакратыі і мове (узначальвае суполку маёр Міхась Варанец).

У многіх суполках дзейнасць ТБМ пакуль што носіць «папяровы» характар. Таму і даводзіцца чуць такое: «Нам жа ніхто не дапамагае...» Большасць беларусаў не ведаюць роднай мовы, а людзі, якія выказалі сваю прыхільнасць да беларусізацыі членствам у ТБМ, не ведаюць, чым заняцца, чакаюць дапамогі «зверху»... Ну ці не дзіўна гэта?

У Печынскім жа вайсковым гарнізоне «не спяць у шапку». Стварыўшы пярвічную арганізацыю ТБМ, Міхась Варанец, Курбан Гельдыеў і іх сябры знайшлі, да чаго прыкласці рукі. Па-першае, вайскоўцы прынцыпова паставіліся да арганізацыйных момантаў. Яны вызначылі месца і дзень сустрэч: гэта — апошняя серада кожнага месяца ў мясцовай Печынскай дзесяцігодцы. Збіраюцца сябры ТБМ а 20-й гадзіне... Позна? Ды нічога не зробіш, раней наўрад ці ў вайскоўцаў атрымаецца.

— У сераду кожны з наведвальнікаў можа атрымаць кансультацыю па беларускай мове,— расказвае Варанец, — у нас жа пакуль галоўны клопат — гэта авалодаць родным словам. Пад час сустрэч арганізоўваем таксама заняткі па гісторыі і беларускай культуры. Акрамя таго, усе, хто заходзіць да нас, маюць магчымасць пазнаёміцца з навінкамі беларускай літаратуры, з свежымі газетамі і часопісамі. Ёсць магчымасць паслухаць і беларускую песню.

Удзел у рабоце ТБМ для вайскоўцаў — гэта яшчэ і школа дэмакратыі (як вядома, дэмакратычныя перамены ў войску толькі пачынаюцца). Сябры суполкі — дбайныя рупліўцы на ніве прапаганды ідэі стварэння беларускага нацыянальнага войска. У Печынскім гарнізоне Міхась Варанец і Курбан Гельдыеў вядомыя як людзі, што супрацьстаяць хамству і бескультурнасці ў войску, змагаюцца з парушэннямі сацыяльнай справядлівасці. Гэтыя сябры ТБМ актыўна ўдзельнічаюць у выданні незалежнай газеты «Печинские новости». Выйшла ўжо тры нумары. На жаль, выданне пакуль рускамоўнае. Мо з часам і яно больш актыўна ўключыцца ў працэс беларусізацыі. Хоць ужо зараз, мяркуючы па тэматыцы газеты, можна заўважыць, што «Печинские новости» — выданне больш беларускае, чым некаторыя беларускамоўныя выданні, якія прытрымліваюцца прынцыпу: «Ні ачарніць, ні абяліць». А шматтыражка барысаўскіх вайскоўцаў ужо сёння заклікае: «...для каго Беларусь ёсць ці стане месцам пастаяннага жыхарства, і чые дзеці пойдуць у першы клас,— аддайце іх у беларускамоўныя класы». І далей: «Вашыя дзеці горш ад гэтага гаварыць па-украінску ці па-расійску не стануць. А веданне некалькіх моў яшчэ нікому не было перашкодай для жыцця».

А. К.

## Дзе і што?

* * *

Як сцвярджае нямецкі друк, на рубінавыя зоркі ў Крамлі ўжо ёсць пакупнікі. Ёсць звесткі, што расійскі ўрад мае намер зняць іх і замяніць на арла.

* * *

Пры ўкраінскім Нацыянальным алімпійскім камітэце ствараецца дабрачынны фонд «Олімпійська солідарність». Кандыдаты ў алімпійскія зборныя Украіны і НАК звярнуліся да суайчыннікаў, працоўных калектываў сваёй краіны з запрашэннем прыняць удзел у яго дзейнасці.

Галоўная ідэя звароту — Украіну прызнала незалежнай шмат дзяржаў, таму ёсць надзея, што пытанне рэгістрацыі Украіны ў Міжнародным алімпійскім камітэце і ўдзел яе спартсменаў у летніх Алімпійскіх гульнях у Барселоне вырашыцца станоўча. «Дапамажыце нам зрабіць першы самастойны крок»,— просяць яны і абяцаюць прыкласці ўсе намаганні для таго, каб сабраныя такім чынам грошы спрыялі росту спартыўнай славы Украіны.

(ВІС).

*Беларускае замежжа*

## «Беларус'ен рэв'ю» — удакладненая назва


BELARUSIAN REVIEW

Quarterly Information Bulletin

Vol. 3, No. 3 Fall 1991

EDITOR'S DESK

Беларуска-амерыканскім Задзіночаннем у Злучаных Штатах Амерыкі (Каліфорнія) выдадзены чарговы нумар англамоўнага штоквартальніка «Беларус'ен рэв'ю» (раней называўся «Беларашн рэв'ю»). Змена назвы выклікана зацвярджэннем беларускім парламентам новай назвы нашай рэспублікі і новай яе транслітарацыяй.

У нумары прыводзяцца розныя погляды на мэты нацыянальнага развіцця, эканамічную і палітычную сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь трох яе палітычных лідэраў: Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча, прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча і лідэра парламенцкай апазіцыі Зянона Пазьняка.

Пад рубрыкай «Думкі і назіранні» змешчаны артыкул амерыканскага кангрэсмена Д. Рорабакера «Былыя савецкія рэспублікі ў пераходны перыяд да дэмакратыі», у якім ён падтрымлівае намаганні беларусаў наладзіць цесныя дыпламатычныя, эканамічныя і культурныя сувязі са Злучанымі Штатамі Амерыкі і Еўропай. Якія ж канкрэтныя захады робіць у гэтым напрамку ўрад Беларусі? Гэтай тэме прысвечаны артыкул Арта Турэвіча «Беларусь і Злучаныя Штаты». Тут жа знайшлі адлюстраванне падзеі, што адбыліся 8 снежня 1991 г. у Белавежскай пушчы, дзе сустрэліся лідэры трох незалежных дзяржаў — Беларусі, Украіны і Расіі — і падпісалі пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Па просьбе шматлікіх англамоўных чытачоў у нумары змешчана падрабязная інфармацыя пра Беларускі Народны Фронт «Адраджэнне», надрукавана яго праграма і статут.

У рубрыцы «Фрагменты з беларускай гісторыі» надрукаваны нарыс «Слуцкае паўстанне» (паводле артыкула Язэпа Барэйкі).

Увагу чытача прыцягвае рубрыка «Спадчына Чарнобыля». Тут публікуюцца шматлікія допісы аб дапамозе нашых замежных суродзічаў пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы.

Рубрыка «Беларускае замежжа» цалкам прысвечана ўрачыстасцям з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Тут жа надрукаваны адкрыты ліст у «Нью-Йорк таймс» вядомага беларускага дзеяча эміграцыі Ю. Станкевіча, які ў перакладзе на беларускую мову мы прапануем ніжэй нашым чытачам.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

### АДКРЫТЫ ЛІСТ У «НЬЮ-ЙОРК ТАЙМС»

Паважаны рэдактар!

Я павінен выказаць пратэст супраць сталага і сістэматычнага ігнаравання Рэспублікі Беларусь большасцю амерыканскіх сродкаў масавай інфармацыі.

Беларусь — у мінулым вядомая як Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — абвясціла сваю незалежнасць 25 жніўня 1991 г. пасля правалу путчу ў былым Савецкім Саюзе. Адным з першых актаў новай незалежнай краіны было вяртанне яе сапраўднага наймення — Беларусь. Гэта назва краіны на беларускай мове. Семдзесят гадоў назад маскоўскія акупанты наўмысна перайменавалі яе ў «Беларусію». На працягу гэтага перыяду фактычна замоўчвалася існаванне асобнай дзяржавы і на Захадзе Беларусь успрымалася як прыдатак Расіі.

Новы ўрад Рэспублікі Беларусь праінфармаваў міжнародную грамадскасць аб правільным напісанні назвы дзяржавы. Парламент Рэспублікі Беларусь вызначыў, што назва краіны павінна гучаць «Беларусь» на ўсіх замежных мовах. На вялікі жаль, гэта ігнаруецца большасцю амерыканскіх друкаваных органаў, якія працягваюць называць Беларусь «Беларусіяй» (калі наогул называюць), за выключэннем «Лос-Анжэлес таймс», якая пастаянна ўжывае правільную назву як у газетах, так і ў картах з тлумачэннямі.

Мой ліст адрасаваны спецыяльна газеце «Нью-Йорк таймс», публікацыі якой маюць значны ўплыў на сродкі масавай інфармацыі ў Злучаных Штатах Амерыкі. «Нью-Йорк таймс» пастаянна ігнаруе новыя паведамленні пра Беларусь і працягвае называць яе «Беларусіяй» насуперак жаданням насельніцтва і ўрада Рэспублікі Беларусь.

Каб пацвердзіць апошняе, прывяду два прыклады: «Лос-Анжэлес таймс» паведаміла, што дзяржаўны сакратар Дж. Бейкер плануе наведаць у канцы снежня 1991 г. Украіну і Беларусь з мэтай абмеркаваць праблемы савецкай ядзернай зброі, што размеркавана ў гэтых дзяржавах. Што ж да «Нью-Йорк таймс», дык яна паведаміла, што сакратар Дж. Бейкер наведае толькі Маскву і Кіеў. Беларусь і яе сталіца Менск былі проста праігнараваны.

Беларусы, якія больш за 70 гадоў прыгняталіся маскоўскім рэжымам, тлумачаць гэты ўчынак як спробу перашкодзіць канчатковаму развалу Маскоўскай імперыі.

У словах Алены Бонэр у артыкуле ў «Нью-Йорк таймс» за 6 снежня 1991 г. («Чаму Захад баіцца свабоды?») гэты пункт погляду гучыць так: «Небяспечны палітычны снабізм Захаду — выказванне непавагі да волі мільёнаў людзей — канчаткова вядзе да здрады сваім заходнім дэмакратычным прынцыпам».

Шчыра Ваш
Ю. Станкевіч.
24 снежня 1991 г.

 



# Кароткі слоўнік эканомікі

БІРЖА. Кажуць, у краінах цяперашняй Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД) іх больш чым дзе. Вось толькі рынак ніяк не асталюецца, бо любяць нашы «партфельшчыкі» размяркоўваць. Пераважна тое, што іншыя зрабілі. Паміж тым як біржа (слова пайшло ад галандцаў ды немцаў) у цывілізаваных краінах з'яўляецца найбольш зручнай ды развітай формай здаровага оптавага рынку масавых замяняльных тавараў. Прадаюцца яны на Б. па стандартах ды ўзорах (таварная Б.). Ці рынку каштоўных папер, замежнай валюты (фондавая Б.). У Заходняй Еўропе ўзнікла яшчэ недзе ў XV стагоддзі. У Вялікім княстве Літоўскім абазначылася ў другой палове XVI стагоддзя, але потым была знішчана ў ходзе Лівонскай вайны, якую насуперак сваім жа купцам распачаў маскоўскі цар Іван IV Грозны, ці Крывавы. У часе НЭПа ў 1921 г. Б. спрабавалі стварыць бальшавікі, але хутка зразумелі, што гэтая штука пагражае аднойчы ім застацца без партфеляў начальнікаў-размеркавальнікаў і вучыцца вырабляць тавар, таму лавачку хутка прычынілі, не забыўшыся «рыначнікаў» адправіць каго ў Курапаты, а іншых у ГУЛАГ, так што цяпер мы нібы на цуда дзівімся на біржавікоў — скуль толькі з'явіліся, няхай сабе і кволыя ды пакручастыя, пасля сталінскай «праполкі» народаў.

Ну, і трохі зноў парушаючы алфавітны парадак, у сувязі з папярэднім словам паставім побач гэта —

БРОКЕР. Дзякуючы рэкламнай мітусні слова гэтае нам ужо трохі і надакучыла, але яго не ведаў яшчэ наш «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (ТСБМ) 1977 года выдання. Праўда, ён упамінае больш ранняга, нямецкага сабрата Б., не прамінуўшы абазваць яго агентам капіталізму і нечым накшталт дармаеда. То МАКЛЕР. В. Ластоўскі таксама Б. яшчэ не ведаў, але ў ягоным «Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку» для маклера месца знайшлося. Тлумачыць ён гэтае слова без усялякага ўпамінання пра капіталістычнае страшыдла. Проста вызначае: М. паходжання нямецкага і гэта пасрэднік паміж прадаўцом і пакупцом. А побач, што цікава, стаіць блізкае да яго вытворнае, відавочна, рускае (але, мяркуем, ці не цюркскага паходжання) — МАКЛАК, што азначае зводчык пры куплі-продажу. А да яго В. Ластоўскі дапасуе яшчэ адно, ужо беларускага паходжання, з крытычнай афарбоўкай,— МАХЛЯР. Дарэчы, маклак у расійцаў быў і зводчыкам, і перакупшчыкам, а таксама гандляваў яшчэ рознай старызнай. Беларусы свае слова захавалі, але засвойваюць зараз паралельна і новае, англамоўнага паходжання — брокер. І няхай гонар за сваю прафесію не дазваляе таму, хто гэтым займаецца, ператварыцца ў колішняга махляра.

*Для дзяцей і дарослых*

*Алесь КІКЛЕВІЧ*

# Пра Фаму, якому мова працаваць перашкаджала

*(Лінгвістычная казка)*

Жыў на свеце Фама, гультай і абібок. Усе ў гаспадарцы працуюць, толькі ён лайдохае з аднаго боку ў другі, нічога не робіць. Падыходзіць Фама да касца:

— Дзень добры!

— Дзень добры! — адказвае касец.

— Ну, што робіш? — пытаецца Фама.

— Як — што? Ты ж бачыш — сена кашу.

— Ну і дзе ж тваё сена? — зноў пытаецца Фама.

Азірнуўся касец. І сапраўды — няма сена, толькі трава скошаная ляжыць.

— Дык няма пакуль што сена,— адказвае ён.— Не высахла яшчэ.

— А што ж ты косіш? — не супакойваецца Фама.

— Сена.

— Ну, а дзе яно?

— Няма.

— Атрымліваецца, што ты косіш тое, чаго няма.

— Што за здарэнне? — разгубіўся касец. — Працаваў-працаваў, рукі намазоліў, а сена не накасіў...

А мужык Фама ўсміхнуўся сабе ў бараду ды пайшоў далей.

Бачыць ён шаўца.

— Гэй, шавец, што робіш?

— А ці не бачыш — боты шыю.

— Боты? Ну і дзе ж яны, твае боты?

— Яшчэ няма, не гатовыя.

— Ты ж сказаў, што іх шыеш. Дык дзе ж яны?

Здзівіўся шавец разв振жанням Фамы.

— Цікавы ты мужык, Фама. Але падумай сам: якія могуць быць боты, калі я іх яшчэ не пашыў?

— А што ты шыеш? — пытаецца ўпарты Фама.

— Боты, варона ты загуменная! — злуецца ўжо шавец.

— А дзе яны?

— Няма, бо яшчэ не пашытыя!

— Значыць, ты шыеш тое, чаго няма?

Задумаўся шавец: «Як я сапраўды магу шыць боты, калі яны яшчэ не пашытыя? Выходзіць, праўда Фамы?»

Крыўдна стала шаўцу, таму ён сказаў:

— Паслухай, Фама, шыю я боты ці не шыю, але галоўнае, што я іх пашыю. А вось ты чаму без справы хістаешся?

— Я працаваць не магу,— адказвае Фама, — бо мне мова працаваць перашкаджае.

— Як гэта?

— А вось так: стану я *касіць сена*, кашу, кашу, а сена няма. Стану я *шыць боты*, як ты, шыю гадзіну, шыю другую, а ботаў няма. Невядома што шыю. Стану я, напрыклад, *кош плесці* — дык тое самае. Вось каб я гаварыў не *касіць сена* — а *касіць траву*, не *шыць боты* — а *шыць скуру*, не *плесці кош* — а *плесці лазу*, тады іншая справа, тады б і я быў да працы здольны. А так мова мне ўсякую ахвоту адбівае.

Пачула гэтую гаворку кухарка.

— Ну ты, Фама, і круцель! — кажа яна.— Што ж атрымліваецца: я зараз гатую крупнік на абед, а яго пакуль што няма. Дык што я тады раблю?

— Нічога,— адказвае Фама.— І я нічога не раблю, і ты таксама.

— Як гэта так! Кінь свае хітрыкі, Фама. Прусакі ў цябе ў галаве завяліся ад гультайства!

Тым часам надышла пара абеду. Стомленыя касец, шавец і ўвесь працоўны гурт селі за стол. Кухарка паставіла гарачы чыгунок, з якога пахла адмысловым крупнікам, і наліла кожнаму ў талерку. Падставіў сваю талерку і Фама.

— А табе нельга,— кажа кухарка.

— Чаму гэта?

— Бо табе мова есці перашкаджае.

— Не разумею,— кажа Фама.

— Ну вось скажы,— пытаецца кухарка,— ці я крупнік варыла?

— Не, не варыла.

— Дык адкуль тады яму ўзяцца?

— Не ведаю.

— І я не ведаю,— кажа кухарка пад мужыцкі рогат.— Так што ніякага крупніка няма, бо яго і быць не можа.

Каўтануў Фама сліну ды й пасунуўся дадому. Як кажуць: што прынёс, з тым і пайшоў.

Але з таго часу перастаў Фама лынды біць і цяпер ужо не скардзіцца на мову за тое, што яна перашкаджае яму працаваць.

*Фёдар ЯНКОЎСКІ*

# Людзі... Словы...

Як і дома бывала, я чую тут Воршу. Я чую на гэтым вакзале родныя і мяккія, далікатныя і мілагучныя словы. Як песні — чуюцца мне *дзіва, дзяўчынка, гародніны дужа нарасьцець, сьнедаць, садавіны ня ўходалі, дзьвесьце, сьвітанне, цюцелька ў цюцельку...* Чую і *госць, ня дзьміся, еж, што ў міся*. Пачуў і тое роднае, што запісаў пасля, праз гады, пад'язджаючы да Оршы, Пімен Панчанка, калі вяртаўся з далёкай чужыны: тут звонкае *дзе*, тут густое *чаго*. Сваімі адразу сталі мне *сяння* і *сьвітаць*, хоць яны не бабруйскія, не глускія, не слуцкія, а яго, аршанчуковы, аршанскія.

Чую (стаяць побач кабеты і хваляць кагосьці):

— А дзетак сваіх і сястрыных глядзіць. Лепі як вока!

Чуў не раз даўно, да таго, як быў на вакзале ў Оршы, чуў і нядаўна, чуў дома і шмат-шмат дзе на Беларусі:

глядзіць дзіцятка, глядзіць бабулю, глядзіць нявестку, глядзіць саду, глядзіць чараду, статак, глядзіць гаспадарку (гаспадаркі). глядзіць на службе, глядзіць вопратку, абутак, глядзіць вельмі вострую і добрую пілу, глядзіць сябе, глядзіць хоць што сваё і не сваё, чужое...

Пачуўшы ад аршанчукоў *глядзіць дзетак лепі як вока*, я апынуўся не ў малюнках, а ў патоку незлічоных малюнкаў, карцін.

Можа, не зусім праўду напішу ў чарговых радках: можа, не літаральна ўсё з напісанага пачулася і ўбачылася тады, улетку тысяча дзевяцьсот саракавога, на аршанскім вакзале...

*Глядзець!* Адно яно, гэта глядзець, спараджае і даглядаць, даглядаць хораша, даглядаць старанна, даглядаць рупліва; глядзець — гэта і гадаваць, і выхоўваць на чалавека, і выводзіць на чалавека, выводзіць у людзі, выводзіць у свет і зберагаць, хаваць, пільнаваць...

*Глядзець* — гэта і...

Перада мною ідуць — са словамі — карцінкі, малюнкі жыццёвыя і з жыцця. Усё гэта — тая малая праўда, без якой няма вялікай усенароднай праўды.

І міла апанавала мяне людская і людская руплівасць. З маёй Бабруйшчыны і Глушчыны, з Рагачоўшчыны і з-пад Мінска, з Заслаўшчыны і Лагойшчыны.

*Урокі*

# АДКРЫЙ СЛОЎНІК... І ЎБАЧЫШ

*(Ліст майму суседу)*

ПАВАЖАНЫ спадар! Я ніколі не крыўдаваў, не гневаўся на цябе. Ніколі не пагаджаўся з табой, але амаль і не спрачаўся. Бескарысна. Я ведаў і ведаю, што ўсіх нас рассудзіць час, а калі не час, дык сам пан Бог. І вось сёння, калі час наш мяняецца, хочацца мне сказаць табе сёетое. А што, ты, відаць, і здагадваешся. Пра мову нашу беларускую гаварыць буду. І не толькі беларускую. І не толькі табе і такім, як ты, небеларусам, што пагардліва да яе ставяцца, але і ўсім тым беларусам (а іх — безліч), якія далучаюцца да бязглуздзіцы, што на кожным кроку сустрэць можна. Сутнасць жа той бязглуздзіцы ў тым, што, маўляў, мова наша — абы-што, і яна нават і не мова зусім, а так сабе. Але давай спынімся, прыглядзімся, паўспамінаем, паразважаем, і тады хоць сяму-таму стане зразумела, што ўсе мовы свету з'яўляюцца і вялікімі, і магутнымі, і свабоднымі, бы расійская, пра якую так пісаў Тургенеў. Сапраўды, хіба ж ёсць у свеце хоць адна мова, на якой немагчыма было б выказаць любоў да маці, замілаванне Радзімай, высокія пачуцці да каханай, пяшчоту да дзіцяці, удзячнасць Богу за тое, што ты нарадзіўся чалавекам? Выказаць такія пачуцці здольна любая мова свету. Гэта тычыцца расійскай і нямецкай, польскай, украінскай і англійскай, літоўскай і яўрэйскай... І так да бясконцасці, уключаючы беларускую. А чаму ж тады, запытаешся, Ламаносаў і Дзяржавін сцвярджалі, што расійская мова па мілагучнасці і мужнасці не саступае лацінскай і старажытнагрэчаскай, а вядучыя еўрапейскія мовы дык нават ва ўсіх адносінах значна пераўзыходзіць? Адказ тут вельмі просты. Гэта ў іх гаварыў здаровы дух нацыяналізму, а калі дакладней,— патрыятызму. Расійскай мове на той час адводзілася сціплая роля і пры імператарскім двары, і ў расійскай Акадэміі навук, і на службе ўвогуле, і нават у войску. Тургенеў жа, зразумела, сумаваў у далёкім замежжы і як патрыёт Расіі не мог інакш пісаць пра сваю мову. Што да Маякоўскага, дык то была звычайная палітычная спекуляцыя, калі ён пісаў:

«Да будь я
и негром
преклонных годов,
И то без унынья
и лени,
Я русский бы выучил
только за то,
Что им разговаривал
Ленин!»

Той жа Маякоўскі пра сваю радзіму-Расію у другім месцы гаворыць:

«Я не твой,
снеговая уродина!»

Незалежна ад таго, хто і як выказаўся пра тую ці іншую мову, хто і як да іх ставіўся, іншыя мовы тыя, існавалі і існуюць аб'ектыўна. І ўсё, відаць, таму, што ні адна мова не існуе сама па сабе, што яна належыць не толькі аднаму народу, а ўсяму чалавецтву. Мовы паміж сабой не ізаляваны. Яны — бы вада ў акіяне; яны самі, калі хочаце, складаюць моўны акіян. А пэўныя мовы, вызначаюцца тым па берагах і жыхарах, што адна без адной існаваць паўнацэнна не могуць. Вось чаму мы і маем у кожнай мове дзесяткі, сотні, тысячы, больш таго — сотні тысяч слоў, запазычаных з моўнага акіяна. Возьмем, напрыклад, словы на літару *а* ў расійскай мове. Колькі іх? Некалькі тысяч. Якое багацце! А вось уласна расійскіх сярод іх дык ці з дзесятак набярэцца?! Гэта «ах», «ахти», «авось», «авоська», «ау». Ну і яшчэ сёе-тое. Калі ж, к прыкладу, возьмем «Антоновку», дык слова гэта паходзіць ад старажытнагрэчаскага імя *Антон*. А слова «азбука» пабудавана па аналогіі з грэчаскім «алфавіт». Не верыш — адкрый слоўнік... і ўбачыш. Такая ж карціна і з іншымі літарамі.

Безумоўна, гэта ні ў якім разе не сведчыць пра тое, што, маўляў, няма самастойнай расійскай мовы. Яна, бясспрэчна, ёсць, як ёсць беларуская, украінская, літоўская, якуцкая, японская і іншыя. А вось што лёс беларускай мовы незайздросны — гаворка асобная. Над ёю, як і над беларускім народам, адбыўся вялікі гвалт, і людзей адвучылі, дакладней — адбілі ад іх роднай мовы. І калі сёння кажуць, што беларусы самі не хочуць карыстацца сваім словам, то ці не нагадвае гэта тое, калі б чалавеку з перабітымі нагамі сказалі: «Скачы! Не забараняецца! Наадварот, мы табе на гармоніку падыграем»?! Ці не кашчунства, ці не святатацтва тут адкрытае, цынічнае?!

Але будзем працаваць, як бы нам ні перашкаджалі. А тыя, што перашкаджаюць, хай таксама памятаюць, што, робячы нам балюча, яны нас і загартоўваюць адначасна. І яшчэ хай памятаюць, што сваёй працай па зберажэнні Божага дару — мовы беларускай — у пэўнай ступені ратуем і іх перад судом Божым. Несумненна, было б лепей, каб яны, перашкоднікі тыя, хоць паспачувалі нам, а, можа, і дапамаглі. Але асабліва на такое спадзявацца не прыходзіцца. З Божай дапамогай і самі будзем рухацца.

Ну вось і ўсё. З пажаданнямі духоўнага нараджэння, дарагі сусед!

**Яўген ГУЧОК.**



 

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# З «падпольнай» кнігі



*Імя Алега Бембеля, паэта і філосафа, цесна звязана з пачаткам новага нацыянальнага Адраджэння ў Беларусі. Шмат з напісанага ім яшчэ і сёння не можа прарвацца да шырокага кола чытачоў.*

*Алег Бембель (Зьніч) нарадзіўся ў 1939 годзе ў Менску ў сям'і скульптараў — Андрэя Ануфрыевіча Бембеля і Вольгі Анатольеўны Дзядок. Па-беларуску ў сям'і гаварыла толькі бабуля Хрысціна — маці Вольгі Анатольеўны, хаця, пры жаданні, маглі гаварыць усе.*

*У 1969 годзе Алег Бембель скончыў Белдзяржкансерваторыю па класу фартэпіяна, у 1974 — аспірантуру пры Інстытуце філасофіі і права (ІФП) АН БССР па спецыяльнасці гісторыя філасофіі. З 1974 па 1982 год — навуковы супрацоўнік гэтага інстытута. На самым пачатку 1983 года быў выгнаны з працы за «нацыяналізм», да сакавіка 1984 года працаваў няштатным сцэнарыстам у літаратурна-драматычнай рэдакцыі Дзяржтэлерадыё. У сакавіку 1984 года Алег Бембель вяртаецца ў ІФП, дзе працуе ў новым аддзеле сацыяльнай псіхалогіі і эстэтыкі, у цэнтры ўвагі якога стала праблематыка беларускай мастацкай культуры. Мовай справаводства ў аддзеле адразу стала беларуская. У першы ж год свайго існавання аддзел правёў рэспубліканскі навуковы сімпозіум па ключавых пытаннях развіцця нацыянальнай культуры і мовы.*

*У 1985 годзе Алег Бембель выдаў у Лондане кнігу-даследаванне «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс», за якую быў зноў выгнаны з АН БССР. Загадчык аддзела, у якім працаваў аўтар, быў зняты з пасады, а сам аддзел (сацыяльнай псіхалогіі і эстэтыкі ІФП) — расфарміраваны. Усе спробы выдаць гэтую кнігу ў рэспубліцы — на працягу апошніх дзесяці гадоў — былі дарэмнымі. Не дапамагло ні разгорнутае пасляслоўе да кнігі, якое напісаў Уладзімір Караткевіч, ні актыўная падтрымка акадэміка спадара Ганчарыка, пісьменнікаў Алеся Разанава, Веры Палтаран, Уладзіміра Конана... Кніга «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» і сёння ляжыць у выдавецтве «Мастацкая літаратура» і чакае лепшых часоў. Яе аўтар пасля трох гадоў беспрацоўя са студзеня 1991 года працуе ў Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф.Скарыны пры Акадэміі навук Беларусі.*

*Нядаўна Алег Бембель прынёс нам у рэдакцыю сваю «падпольную» кнігу «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс», з якой мы і пачынаем друкаваць найбольш цікавыя фрагменты.*

## 1. Беларускія паэты пра родную мову

...Калі ў маёй памяці ўстаюць словы Багушэвіча: «Не пакідайце роднай мовы, каб не памерці», у мяне па скуры прабягае мароз. Яны гучаць, як труба арханпела, што склікае на страшны суд...

**Янка КУПАЛА**

...Скажа хто-небудзь: — Хай бы была адна мова на свеце,— бо і праўда — нашто іх столькі...

Яно б то можа было і добра, а мо і не саўсім. Дай мы, каб было аднаго толькі гатунку дзерава або аднаго толькі гатунку жывёліна ці збажына, то напэўна лёгка дагадацца, што на свеце было б далёка не так прыгожа, як цяпер ёсць. Але калі дзерава і жывёліна ёсць толькі паверхнаснай аздобай зямлі, то можа людзей — ёсць як бы цэнтрам гэтага жыцця, яго душой, яго ўнутранай аздобай.

Для мовы, для гэтай выразіцелькі душы і думак чалавека, не патрэбна ні скіпетраў, ні каронаў, як не патрэбна для сонца якога-небудзь яшчэ пазалочанага абруча, рамак. Сонца само па сабе адна аздобнасць — і золата, і брыльянт. Таксама і мова якога-небудзь народа ёсць для яго і скіпетрам, і каронай, яго нічым не апаганенай аздобнасцяй.

**ЦЁТКА**

...Чаму ж, роднае слова, гэтак часта забываюць цябе людзі — нават тут, між сваімі? Чаму сыны нашага народа так лёгка адракаюцца ад матчынай гутаркі?

Кажуць: бо цёмныя нашы беларусы. Але гэта няпраўда: забываюць родную мову, адракаюцца бацькоў і братоў сваіх найбольш тыя, хто дайшоў да навук, выйшаў у людзі. Яны няцёмныя: яны пераймаюць чужое — дзеля карысці. У сэрцы такіх людзей згасла любоў да свайго народа і роднай мовы. Дачасная карысць, жаданне пашаны ў чужых, смешны гонар — усё гэта заняла месца ў апусцеўшай іх душы. А за іх прыкладам і наша вясковая моладзь, наламваючы сябе, пачынае праз несвядомасць чурацца таго, што яе выдзяляе з паміж іншых народаў, пачынае глядзець на ўсё сваё, роднае чужымі вачыма, думаючы, быццам гэта добра, калі людзі «вышэйшых станаў» так робяць...

На вас — моладзі — ляжыць вялікая павіннасць: развіваць далей родную мову, узбагачваць свой народ знаннем і культурай. Вы здабываеце навуку для сябе, дык дзяліцеся ёю з тымі, хто для вас цяжкай працай здабывае кусок хлеба. Толькі не кідайце роднай мовы: бо запраўды для свайго народа тады вы ўмерлі!

Мейце сілу і адвагу дзяржацца роднага слова. Мейце смеласць усюды голасна казаць па-свойму. І, гледзячы на вас, асмеляцца іншыя, зразумеюць, што шчырае сэрца беларуса б'ецца не толькі пад мужыцкай сярмягай, павераць ва ўласныя сілы свае...

**Якуб КОЛАС**

...— Што такое наша Беларусь? А гэта, бачыш, заходняя акраіна Расіі. Чым яна слаўная? Нічым. Вось балоты ёсць, ды яшчэ на ўвесь свет вядомая хвароба — каўтун. І мы з гэтым легкадумна згаджаемся, мы ўсё гэта прымаем на веру, бо, як ты сказаў праўду, над намі пануе шаблон, шаблон пустых слоў, пустыя выразы, чужыя формы думак і чужы змест іх. Выходзячы з гэтага, мы адварочваемся ад свайго роднага, не шануем яго, мы стыдаемся яго!..

...Кожны народ мае свой гонар. Англічанін перад усім светам горда зазначае: я — англічанін! Тое самае скажа француз, немец, аўстрыец, рускі і іншыя прадстаўнікі другіх нацый. А мы, беларусы, не адважваемся прызнацца ў тым, што мы — беларусы. Бо на галаву беларускага народа, як вядома, многа выліта памыяў, годнасць яго прыніжана і мова асмеяна, у яго няма імя, няма твару. А з гэтага вынікае, што беларус-інтэлігент адмяжоўваецца не толькі ад свайго народа, але і ад бацькоў сваіх. Мы ведаем такое здарэнне з адным нашым знаёмым настаўнікам, да якога прыехала з дому матка. У яго былі госці. Ён пры гасцях не пасмеў пазнаць свае мацеры: «Ідзі ты, кажа, кабетка, на кухню: там цябе накормяць».

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

...Перш-наперш я паспрабую паставіць адно пытанне агульнага характару: з чаго трэба пачынаць маладому літаратару? З якім пачуццём выходзіць у шырокі свет мастацкай творчасці, каб пракласці ў ім сваю ўласную пуцявіну?

На мой погляд, трэба пачынаць з усведамлення, што наша літаратура — вечная, што ёй жыць і праз сотні, і праз тысячы гадоў. І што пачыналася яна не ўчора і не пазаўчора, як думаюць некаторыя недасведчаныя таварышы, а шмат стагоддзяў назад. Разуменне вось гэтага — што ў нашай літаратуры за плячыма доўгія стагоддзі, а наперадзе — яшчэ даўжэйшыя — неабходна маладому пісьменніку для таго, каб ніколі не страціць веры ў высокую грамадскую місію слова, слова, якім ты жывеш і з якім звяртаешся да народа, каб ніколі не апусціць крылле і не ўпасці ў роспач...

**ЯДВІГІН Ш.**

...Мова — кроў народа...

**Максім ЛУЖАНІН**

...У празрыстых ручаінах усіх славянскіх гаворак чуецца магутная падводная плынь агульнай мовы, якая нарадзіла іх у аддаленыя стагоддзі. І праз доўгія выпрабаванні часам, лёсамі, зброяй рысы матчынага аблічча не страціліся ў абліччах дачок.

Калі ў нашых моваў быў агульны выток, тым больш верагодна, што агульнымі будуць сутокі, як гавораць у нас у Беларусі,— месца, дзе зліваюцца яны...

**Рыгор БАРАДУЛІН**

**Пятро ГЛЕБКА**

...Мовы і іх зліццё ў будучым...

А можа і не сальюцца — будзе адна агульная мова, але будуць і свае «раённыя». Вывучаць мовы будзе лёгка, бо знойдуцца добрыя метады, часу будзе больш, бо на матэматыку і іншыя прадметы пры гэтых метадах будзе таксама ісці менш часу.

Праца над слоўнікамі, камунікацыя людзей з дапамогай гукавых слоўнікаў: націснуў пальцам на слова «стол» у беларуска-французскім слоўніку і пачуеш: «ле табль»...

Як жа пры такой тэхніцы могуць знікнуць мовы і нацыянальнасці?..

### МАЯ МОВА

Сцвярджаюць гісторыкі і мовазнаўцы,
Што паступова сціраюцца грані нацый
І, нібыта, як перажытак,
аджыць павінна абавязкова
Мова маці маёй — беларуская мова,
Што мне, як імя ўласнае,
блізкая і знаёмая,
Што па жылах маіх цячэ
і ціхім Сажом і Нёманам.
Я чакаю часіну сябрыны людской,
Але не згаджуся, што родныя мовы луской
Былі на рыбіне чалавецтва,
Якая ў вечнасць плыве акіянам вечнасці.
Галеюць увосень гаі-касмачы,
Па вясне расціскаюць лісты
Свае кулачкі маладыя.
І калі нават мова мая замаўчыць,
То не зробіцца мёртвай латынню.
Словы, дзе кожны гук
Азяблай сінічкай ціњкае,
Не стануць тэрмінамі медыцынскімі.
Гэтыя словы
Павінны вывучыць будуць нанова,
Каб даведацца,
Як Русь мая, белая
Ад веснавое наквеці
І ад касцей няпрошанай набрыдзі
З-пад чарапастых свастык,
Вольнай воляй сваёй даражыла,
Як з братамі і сёстрамі
Шчыра дружыла.
Калі мова мая
Уліецца ў агульны людскі акіян,—
Пацячэ ў ім, стрыманая,
Цёплым Гальфстрымам.
І будзе мне сэрца грэць
Кожным ашчаджаным словам,
Бо, як жыта,
Спрадвечная
Беларуская мова!

**Максім ТАНК**

### РОДНАЯ МОВА

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц,
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго,—
Ты выткана, дзіўная родная мова.
Няма на зямлі таго шчасця і гора,
Якога б ты нам перадаць не магла.
Няма такіх нетраў, глыбокага мора
І гор, праз якія б ты не правяла
Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння
Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй
Над спаленай хатай, над родным загонам,
Над будучыняй і над песняй маёй,—
Над тым, што было і што век будзе вольным.
Народ пранясе цябе, родная мова,
Святлом незгасальным у сэрцы сваім
Праз цемру і годы змаганняў суровых.
Калі ж ападзе і развеецца дым
І нівы васкросшыя закаласяцца,—
Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,
Ізноў зазвініш ты у кожнае хаце,
Цымбалам дасі іх сярэбраны гром
І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.
1943.

**Алесь ГАРУН**

### ПЕСНЯ-ЗВОН

Гэй ты, маці, родна мова,
Гэй ты, звон вялікі, слова,
Звон магучы,
Звон бліскучы,
З срэбра літы,
З злота збіты,
Загрымі ты,
Загрымі!
Гэй, званар, званар, мой пане,
Бі у звон, як змогі стане
Без спачынку,
Без упынку,
Потам зліты,
Ім умыты,—
Бі, звані ты,
Бі, звані!

Гэй, гусляр, пясняр, мой браце,
Грай, спявай, у полі, ў хаце,
Дзе гарота,
Дзе галота,
Дзе нясыты,
Дзе няўмыты,—
Сум спыні ты,
Жаль спыні!
Струны хай грымяць і рвуцца
З болю, з гневу, хай смяюцца
Разам з імі,
Не чужымі,
Голас чысты,
Залацісты,
З імі злі ты,
З імі злі!..

*(Працяг будзе).*

# ШЭДЭЎРЫ СУСВЕТНАЙ ПАЭЗІІ ПА-БЕЛАРУСКУ

СЁННЯ — ПРЭМ'ЕРА НОВАЙ РУБРЫКІ. З нумара ў нумар чытачы «Нашага слова» змогуць далучацца да ўзораў высокай паэзіі, што стваралася ў розных краінах свету на працягу больш як дваццаці пяці стагоддзяў. У шырокім сэнсе гэтая паэзія таксама павінна зрабіцца беларускай, бо спрадвеку было так, што ўсе паэтычныя творы, якія пачыналі гучаць на мове таго ці іншага народа, засвойваліся, завучваліся гэтым народам на памяць. Інтымныя ж пачуцці чалавека лепш не выкажаш, як на роднай яму мове. Выходзіць, нам, беларусам, трэба і тут вяртацца да свайго...

Пераклады паэтычных твораў, якія будуць змяшчацца ў рубрыцы, зроблены амаль выключна з мовы арыгінала. Спадзяюся, што за час існавання нашай рубрыкі беларускія паэты-перакладчыкі дашлюць новыя пераклады невялікіх твораў паэтаў розных краін і народаў і, такім чынам, адбудзецца своеасаблівы конкурс.

А сёння ўвазе чытачоў прапануюцца два ўзоры старажытнагрэчаскай паэзіі.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

Сафо (гады жыцця — пасля 650 г. да н. э.)

**ДА РУЖЫ**

Каб Юпітэру выбіраць царыцу
Між дачок Вясны — ён бы выбраў ружу.
Глянце: вочка ззяе-цвіце каханнем
Нашага поля.

З лона кветкі пекнай зефір струменіць,
Сэрца захапляецца прыгажосцю,
Ціха млявасць поўніць яго, і кожны
Ўздых — насалода!

*Пераклад Лявона Баршчэўскага.*

Невядомы грэчаскі аўтар (да н. э.)

* * *

Ты — шчаслівы, конік любы!
Бо на кронах дрэваў гонкіх,
Кропляў росных паспытаўшы,
Нібы цар, спяваеш гожа.
Бо тваё ўсё навакола:
Тое, што ў палях ты бачыш,
Тое, што ў лясах буяе.
Ты — сялянаў добры сябар,
Анікалі ім не шкодзіш;
Ты — для ўсіх смяротных мілы,
Лета добры спавяшчальнік!
Падабаюць цябе Музы,
Падабае Феб таксама —
Даў табе ён голас зычны.
Не дратуе цябе старасць,
Мудры спеўца земнародны,
Беспакутны ды бяскроўны,
Ты — амаль богападобны!

*Пераклад Алеся Жлутко.*

## *Проза*

*Гары КЕМЕЛМАН*

# І. ДЗЕВЯЦЬ МІЛЬ У ДОЖДЖ

***Гары Кемелман (нар. у 1908 г. у Бостане) — амерыканскі пісьменнік, які працуе ў жанры вострасюжэтнай дэтэктыўнай прозы. Перад тым, як стаць прафесійным літаратарам, працяглы час працаваў выкладчыкам англійскай мовы і літаратуры ў каледжы. Гэты вопыт даў яму магчымасць стварыць у шэрагу сваіх твораў каларытны вобраз дэтэктыва-аматара Нікі Уэлта, прафесара філалогіі. Асноўны прыём, які ён эфектыўна карыстаецца — аналіз выказванняў магчымага злачынцы. За фразай Нікі Уэлт угадвае канкрэтную чалавечую дзейнасць, бо словы, з якіх ствараецца сказ, атрымліваюць сваю сэнсавую напоўненасць не так сабе — за імі стаяць паводзіны людзей пэўнага сацыяльнага асяродку ў пэўных абставінах. Праўда, прызнаецца гэты амерыканскі Шэрлак Холмс , іншым разам учынкі некаторых прадстаўнікоў роду чалавечага ніяк не ўкладваюцца ў фармальную лагічную схему чакаемых паводзін.***

ВЫСТУПАЮЧЫ з прамовай на абедзе Асацыяцыі Добрага Кіравання, я зрабіў промах, і Нікі Уэлт за снеданнем у «Блакітным Месяцы», куды мы іншы раз заходзілі падсілкавацца, пацяшаўся з мяне. А было вось што: я адышоў ад загадзя падрыхтаванага тэксту і ўзяўся крытыкаваць адно выказванне майго папярэдніка на пасадзе акруговага пракурора. Але, крытыкуючы гэта выказванне, я зрабіў цэлы шэраг вывадаў, за якія ён і ўхапіўся, абрынуўшы на мяне ўвесь запас свайго красамоўства і выставіўшы мяне як несумленнага апанента. Што ж, я быў тады навічок у палітычнай гульні, бо за некалькі месяцаў да таго скончыў юрыдычны факультэт і вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду акруговага пракурора ад рэфармісцкай партыі. Я спадзяваўся, што гэта падымае мяне ў вачах Нікі Уэлта, але прафесар англійскай мовы і літаратуры Сноўданскага універсітэта запярэчыў такім ментарскім тонам, з якім, пэўна, гаварыў са студэнтамі, што завалілі экзаменацыйную сесію:

— Слабое апраўданне.

Хоць Нікі Уэлт усяго толькі на два гады старэйшы за мяне (цяпер яму пад пяцьдзесят), ён заўсёды ставіцца да мяне, як школьны настаўнік да няздольнага вучня, і я цярплю, магчыма, таму, што ён старэйшы: галава ў яго сівая, а твар маршчыністы, як печаны яблык.

— Я разважаў строга лагічна,— адбіваўся я.

— Юны мой сябар!— усміхнуўся Нікі Уэлт.— Хоць узаемаадносіны паміж людзьмі і немагчымы без вываду розуму, аднак многія з іх не адпавядаюць праўдзе. А ў галіне юрыспрудэнцыі працэнт памылак асабліва высокі, бо асноўная тут задача — выявіць не тое, што чалавек хоча сказаць, а тое, што ён імкнецца ўтаіць.

Я згроб са стала свой чэк і падняўся з крэсла.

— Здаецца, вы маеце на ўвазе допыт сведак на судзе. Але на працэсах заўсёды знойдзецца абаронца, які ўшчэнт разаб'е любы ваш вывад, калі ён супярэчыць логіцы.

— А я што-небудзь сказаў пра логіку?— здзівіўся Нікі Уэлт.— Вывад розуму можа строга адпавядаць логіцы і ў той жа час быць няправільным...

Нікі Уэлт услед за мною падышоў да канторкі касіра. Я аплаціў чэк і цярпліва чакаў, пакуль ён корпаўся ў сваім кашальку, вывуджваючы адтуль манеты і кладучы іх на стойку. Убачыўшы, што дробных грошай у яго малавата, ён усыпаў манеты назад у кашалёк, выцягнуў паперку і падаў касіру.

— Дайце мне любы сказ з дзесяці-дванаццаці слоў,— сказаў Нікі Уэлт, павярнуўшыся да мяне,— і я ствару ланцуг лагічных вывадаў, пра якія вы нават і не думалі.

У памяшканне ўвайшлі новыя наведвальнікі. Каля касы стала цесна, і я падаўся на вуліцу, каб там пачакаць, пакуль Нікі Уэлт разлічыцца з касірам. Памятаю, мяне крыху рассмяшыла, што ён не ўбачыў, як я выйшаў, і гаварыў там немаведама да каго.

Калі ж прафесар выйшаў на тратуар, я сказаў яму:

— «Дзевяць міль пешшу — гэта не жарт, ды яшчэ ў дождж».

— Ага,— згадзіўся ён, але даўмеўшыся, пра што ідзе гутарка, дапытліва глянуў мне ў твар:— Што гэта вы, чорт вазьмі, сказалі?

— Фразу. У ёй дзесяць слоў,— і я паўтарыў сказ, пры кожным слове загінаючы палец.

— Наконт чаго гэта?

— Вы ж самі сказалі, каб я прыдумаў сказ з дзесяці-дванаццаці слоў, і вы...

— А-а... так-так...— Нікі Уэлт падазрона ўтаропіўся на мяне.— Адкуль вы яго ўзялі?

— Прыйшоў у галаву. Рабіце ж свае вывады.

— Вы гэта сур'ёзна?— запытаў ён, і яго маленькія вочкі заблішчалі.— Не жартуеце?

Я ўзлаваўся:

— Дык разбірайце сказ альбо прыкусіце язык!

— Добра, добра,— сказаў ён памяркоўна.— Нашто злавацца. Я пачынаю. Гм... Трэба падумаць... Як вы там сказалі? «Дзевяць міль пешшу — гэта не жарт, ды яшчэ ў дождж»... Не надта многа, каб было за што ўхапіцца.

— У сказе дзесяць слоў,— сказаў я.

— Ведаю, ведаю...— у голасе Нікі Уэлта прагучала рашучасць: відаць, у думках ён пачаў прымервацца, як рашыць задачу.— Вось вам першы вывад: той, хто гаварыў, быў вельмі ўсхваляваны.

— Магу пагадзіцца з вамі,— сказаў я.— Але ці можа гэта лічыцца вывадам розуму? Калі ўсё відаць з самога сказа.

Нікі Уэлт нецярпліва кіўнуў галавой:

— Наступны вывад: дождж пайшоў нечакана, бо інакш вы сказалі б: «Дзевяць міль пешшу ў дождж — не жарт». Слоў «ды яшчэ» ў сказе не было б. Частка фразы «ды яшчэ ў дождж» прыйшла ў галаву чалавеку, які яе гаварыў, пазней.

— Дапускаю,— згадзіўся я.— Аднак гэта таксама вынікае з сэнсу сказа.

— Першыя вывады і павінны быць такімі,— павучальным тонам сказаў Нікі Уэлт. Я прапусціў яго словы міма вушэй. Было відаць, што ён разгубіўся і не ведае, за што ўхапіцца.

— Наступны вывад: той, хто гаварыў, не спартсмен і не чалавек, які прывык хадзіць у дождж.

— Гэты вывад трэба абгрунтаваць,— папрасіў я.

— Тут зноў маюць значэнне словы «ды яшчэ»,— адказаў ён.— Чалавек не сказаў, што дзевяць міль у дождж не жарт, а што прайсці столькі — не жарт. Хоць дзевяць міль не так ужо і многа. Гуляючы ў гольф, вы нават робіце больш, а гольф — гэта ж гульня для дзядоў,— дадаў ён іранічна, бо ведаў, што я заядлы ігрок.

— Згодзен. Пры звычайных абставінах усё было б правільна. Але, скажам, гэтым чалавекам быў салдат, які ваяваў у джунглях. У такім выпадку прайсці дзевяць міль не так ужо і лёгка, усё роўна пад дажджом ці не.

— Што ж, вы маеце рацыю,— з ухмылкай сказаў Нікі.— Акрамя таго, ён, пэўна, чыкільгае на адной назе. Ды, зрэшты, чалавек піша дысертацыю пра гумар і пачынае перабіраць усё, што не смешнае. Але паслухайце, перш чым разбіраць ваш сказ далей, я хацеў бы зрабіць некалькі дапушчэнняў.

— Што вы хочаце гэтым сказаць?— я падазрона глянуў на Нікі.

— Майце на ўвазе, ваш сказ я прымаю «ін вакуо», гэта значыць — у пустаце, адасоблена. Я не ведаю, хто яго сказаў і з якога выпадку. Звычайна ж любы сказ, любая фраза вынікае з жыццёвай сітуацыі.

— Разумею вас. А якія дапушчэнні вы хочаце зрабіць?

— Па-першае, я дапускаю, што чалавек пайшоў пешшу не проста так, а па нейкай справе, што ён сапраўды прайшоў гэтыя дзевяць міль, але не дзеля таго, каб выйграць заклад.

— Нічога супраць не маю — усё вельмі слушна,— згадзіўся я.

— І яшчэ дапускаю, што ўсё гэта адбылося недзе тут.

— Вы маеце на ўвазе Фэрфільд?

— Не абавязкова Фэрфільд. Наогул у гэтым раёне краіны.

— Што ж, ніякіх пярэчанняў у мяне няма.

— Калі вы не адхіляеце гэтых дапушчэнняў, вам давядзецца прыняць мой апошні вывад, што той, хто сказаў гэту фразу, не спартсмен і не чалавек, які прывык хадзіць пешшу ў дождж.

*(Працяг будзе).*

***СЛОВА ПРА ПЕРАКЛАДЧЫКА — СЯМЁНА ДОРСКАГА***

*На вялікі жаль, развітальнае. Сямён Львовіч 14 студзеня на 72 годзе жыцця раптоўна памёр. Яшчэ днём ён наведаў нашу рэдакцыю, вычытваў прыдзірліва чарговы выпуск «Размоўніка ветлівага госця», які пачаў весці з вялікай ахвотаю. Жартаваў, дзяліўся творчымі планамі, развіваў нашу агульную ідэю, якая яго захапіла,— праз публікацыю ў «Нашым слове» перакладаў лепшых узораў замежнай дэтэктыўнай прозы заахвоціць шырокае кола аматараў гэтага жанру чытаць па-беларуску, спасцігаючы адначасова і роднае слова. Некалі ж многія з нас гэтак прыахвочваліся да польскай мовы. Расказваў, чым асабіста ён гатовы ў гэтым сэнсе дапамагчы. А дапамогу Сямён Львовіч мог аказаць значную — з ягоным перакладчыцкім талентам ды грунтоўным веданнем некалькіх заходнееўрапейскіх моў. Ён працяглы час быў выкладчыкам, потым загадчыкам кафедры англійскай мовы Белдзяржуніверсітэта. У 1962—1983 гадах працаваў яшчэ дацэнтам кафедры лексікалогіі (пазней стылістыкі) англійскай мовы Менскага дзяржаўнага педінстытута замежных моў. Меў вучоную ступень кандыдата філалагічных навук. Акрамя таго, Сямён Дорскі на высокім узроўні рабіў літаратурныя пераклады з англійскай, нямецкай, французскай ды іспанскай моў на беларускую. Большая частка таго, што ён прапанаваў рэдакцыі, раней публікавалася ўжо ў розных перыядычных выданнях, прайшла рэдактарскую апрабацыю, але як творчы чалавек, Сямён Львовіч імкнуўся ўдасканальваць некалі зробленае, перапрацоўваў зноў і зноў па просьбе рэдакцыі ці асабістаму пачыну асобныя выразы і цэлыя сказы, дамагаючыся натуральнасці гучання фразы, адэкватнасці арыгінала з ягоным беларускамоўным варыянтам.*

*З вялікім смуткам мы развітваемся з гэтым добразычлівым, шчодрым ды таленавітым чалавекам. Адно цешыць: зробленае ім будзе яшчэ жыць ды жыць, радуючы ўдзячнага беларускага чытача сваёй адметнасцю. Майстэрства вечнае.*

**Эрнэст ЯЛУГІН.**

